МЕНСК № 10/1989
ЛІСТАПАД
ЧАСАПІСЬ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНА-СЬВЯДОМАГА СТУДЭНЦТВА

# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА



Лявон СТАРЭЙШЫ

## Сьпіш, беларусе...

Адзін з захаду груган,
А другі з усходу
Прыляцелі на сяло,
На чужую шкоду.

Янка Купала

Сьпіш, беларусе, а ў небе халодным,
Паналяцеўшы з такіх далячынь,
Зноў над табою кружляюць галодныя
І ненасытныя крумкачы.

Ніжай і ніжай яны пралятаюць,
Зараз крануцца сьвятое зямлі.
Зараз драпежнікі гэныя стануць
Цела твае між сабою дзяліць.

Бо ж ня маеш ты, мову забыўся.
Як жа прагнаць табе тых крумкачоў ?!
Крыкнуць захочаш, а з горла ў высі
Ціхае карканьне вырвецца.
Зноў!

## Сёньня ў нумары



## ЗАЎВАГІ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ ГРАМАДЫ /СД № 9/.ФРАГМЭНТЫ.

1. У праекце адсутнічае цэласная канцэпцыя вышэйшай адукацыі. Замест таго ёсьць шэраг прыватных захадаў, большасьць зь якіх былі б крокам наперад. Аднак гэтая праграма пераважна нэгатыўная. Яна паходзіць ад незадаволенасьці наяўным становішчам і ў шмат меншай ступені ад уяўленьня пра становішча <u>належнае</u> й <u>быту вартае</u>. Якраз таму ў праграме гэтулькі пунктаў пачынаецца з словаў: адмена, скасаваньне, ліквідацыя, узнаўленьне. Да прыкладу, пункт 3-б: скасаваньне сэмэстровай сыстэмы навучаньня. Здаецца, варта было б тут-сама выкласьці, <u>якую ж</u> сыстэму навучаньня Грамада прапануе замест сэмэстровае. Гэта ж бо досыць істотна. Чаго Грамада ня хоча, мы бачым, але каб яшчэ ў праекце было б пазначана, чаго ж яна ўрэшце хоча.

2. Складаецца ўражаньне, што падчас распрацоўкі праекту зусім ня ўлічвалася сусьветная ўнівэрсытэцкая практыка, а ў ёй выпрацавана ці мала мадэляў вышэйшае адукацыі. Ъога было б разгарнуць дыскусію аб вартасьцях і недахопах тае ці іншае мадэлі і аб пэрспэктыўнасьці тае ці іншае мадэлі, або асобных яе рысаў, для беларускае сыстэмы вышэйшай адукацыі. Нажаль, ці не адзінай такога кшталту

2 публікацыяй у СД быў колішні артыкул Ларысы Чарнышовай пра унівэрсытэцкія традыцыі.

3. Не зусім зразумела, што такое паводле праекту дэідэалягізацыя. Паліталёгія, бачыце, не бывае пазбаўленаю ідэалягічнай афарбоўкі. Калі Грамадзе недаспадобы марксызм, дык давайце так і напішам, але тады цікава ведаць, якія ж вартасьці мае прапавядаць згаданы курс. Патом, ёсьць жа ж ідэалягічныя вучэльні, як іх дэідэалягізаваць? Здаецца, дакладней было б казаць аб плюралізьме ідэалёгіяў. Вунь у Польшчы, дзякуй Богу, ёсьць сьвецкія унівэрсытэты й побач каталіцкія.

4. Не зусім зразумела, чаму агульныя мэты Грамады -- выключна палітычныя і ані крышачку не культуральныя. Незразумела таксама, што за розьніца паміж мэтамі й задачамі, чаму ў праекце пералічаныя захады да ажыцьцёўленьня толькі задачаў, а ня мэтаў, і якім чынам тады Грамада мае спраўджваць гэтыя мэты?

5. Яшчэ пра дэідэалягізацыю. Можа з грамадзкіх дысцыплінаў хоць палітэканомію пакінем? Цікава ўсё ж ведаць, адкуль што бярэцца, дый інжынэру, здаецца, не зашкодзіць.

6. Льга заўважыць, што праект захоўвае абавязковасьць профільных прадметаў. Пакажэце мне інжынэра, які ня стаў-бы вучыць, скажам, матэматыку, калі б на тое была ягоная воля. Зрэшты, тое, што льга сказаць пра гэта, дый пра іншыя рэчы, можа быць сказана падчас дыскусіі, пра якую гл. п.2.

7. Крыху дробных заўваг. Калі частка групы займаецца на іншай мове зь іншымі выкладчыкамі па іншых падручніках, дык можа гэта проста іншая група, як то паўсюль вядзецца? Пункт 6-з выходзіць за рамкі чыста студэнцкага руху, яму мейсца ці не ў агульных мэтах. Пункты 4-а і 4-г супярэчаць адзін аднаму.

8. Адказы на пытаньні, прапанаваныя рэдакцыяй, здаецца, відавочныя. Але відавочна і тое, што праект у тым выглядзе, як ён апублікаваны, да згуртоўваньня вакол яго непрыдатны. Ён пазбаўлены станоўчае канцэпцыі і складаецца з шэрагу прапановаў, часам няслушных ці недапрацаваных. Гэтыя прапановы можна збольшага прыйняць за аснову ўжо цяпер. Але грунтоўную праграму не выпадае выпрацаваць іначай, як шляхам дыскусіі, пра што ўжо ішлося вышэй /п.2/.

Васіль РАПТОВІЧ,
студэнт.

08.10.1989
Менск.

# КАРОТКІ БЕЛАРУСКІ КАТЭХІЗІС

Калі пачалося беларускае Адраджэньне? І хто яго дзеячы?

Барацьба за незалежнасьць пачалася ў нас адразу пасьля далучэньня да Расеі. У 1794 г. выбухнула паўстаньне Тадэвуша КАСЬЦЮШКІ.

Нашто землю нам забралі?
Нашто ў путы закавалі?
Дочкі, жонкі нам гвалцілі?
Трэ, каб мы ім заплацілі.
Ці ўжо мы ўсе сабакі?
Гаспадары -- не бурлакі!
Бывай здарова, Грыпіна!
Параска! Мая дзяўчына!
Ад вас цяпер ад"яжджаем,
Да Касьцюшкі ўсе прыстаем.

/З тагачаснае беларускай ваяцкае песьні/.

Барацьба за незалежнасьць Беларусі працягвалася паўстаньнем 1831 г., дзе вылучыліся правадырамі Эміля ПЛЯТАР і Сымон КАНАРСКІ, а таксама Вялікім Паўстаньнем 1863 г. пад кіраўніцтвам Кастуся КАЛІНОЎСКАГА, які ў сваёй газэце "Мужыцкая Праўда" пісаў:

"Божа ўсямоцны! Ты аб нас не забывай, зьлітуйся над намі, памажы нам у нашай нядолі, выгані Маскаля

з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасьць і веру
нашых Дзядоў і Прадзедаў!"

Разам з XX ст. на зьмену рамантызму спантанных шляхоцкіх і сялянскіх выступленьняў прыйшоў рэалізм палітычнае барацьбы. Новы этап нацыянальна-вызваленчага руху распачалі і ўзначалілі браты Іван і Антон ЛУЦКЕВІЧЫ -- прамоўца і публіцыст, заснавальнікі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, беларускага друку і па-сутнасьці ўсёй новай беларушчыны. Поплеч зь імі актыўна працавалі Казімер КАСТРАВІЦКІ /Карусь Каганец/, Вацлаў ІВАНОЎСКІ, **Аляксандар УЛАСАЎ**, Алаіза ПАШКЕВІЧ, Вацлаў ЛАСТОЎСКІ, Алесь БУРБІС і шмат іншых. Абвяшчэньне 25 сакавіка 1918 года незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося ў атмасфэры актыўнае работы некалькіх беларускіх партыяў, аб"яднаньняў, таварыстваў, **рэдакцыяў** нацыянальных пэрыёдыкаў. Найбольш выбітныя нацыянальныя дзеячы міжваеннага пэрыяду /1920--1939/ у савецкай Беларусі: Алесь Чарвякоў і Зьміцер Жылуновіч; у Заходняй Беларусі: Браніслаў Тарашкевіч і Сымон Рак-Міхайлоўскі, Леапольд Родзевіч, Ігнат Дварчанін і шмат іншых.

Якія галоўныя беларускія сьвяты?

КАЛЯДЫ /25 сьнежня -- 6 студзеня/. Па вечарах хлопцы і дзяўчаты пераапранаюцца ў калядных пэрсанажаў. Хто ў вывернутым кажуху ды ў масцы -- Каза, хто байчэйшы на язык ды з прылепленай барадой -- Дзед, хто чарнявы з мяхом -- Цыган, хто самы вялікі ды няспрытны ў чырвонай або "гарохавай" кашулі -- Маскаль, хто Баба і г.д. -- своеасаблівы маскарад. Бяруць з сабой "зьвязду" -- пачэпленую на палку зорачку і ідуць шчадраваць. З каляднымі песьнямі, скокамі ды гульнямі ходзяць па вуліцах, раз-пораз заходзячы ў дамы і кватэры. У кватэрах учыняюць паказ: Дзед з табакеркай поўнай попелу частуе гаспадара і забаўляе ўсіх жартамі, а яму стараюцца падпаліць бараду, Цыган прыстае варажыць і зьбірае ў мех падарункі, Маскаль патрабуе парадку, за што яго б"юць і ламаюць ягоную балалайку. Усе астатнія, пусьціўшы ў кола Казу, сьпяваюць і скачуць. Каза паказвае ўсё, што гаворыцца пра яе ў песьні. Пахадзіўшы па кватэрах і назьбіраўшы поўны мех пачастунку, калядніки ўчыняюць супольную вячэру. Шчадруюць ад першага дня Калядаў да Новага году.

КУПАЛЬЛЕ /ноч з 23 на 24 чэрвеня або з 6 на 7 ліпеня/. Старажытнае сьвята росквіту жыватворных сілаў. Цэлы дзень /23/ з песьнямі дзяўчаты зьбіраюць кветкі і зёлкі, віюць вянкі, а хлопцы сьцягваюць усялякае ламачча і дровы на бераг ракі альбо возера. Усярэдзіне вялікага вогнішча на высокай жэрдцы /4--6 метраў/ утыркаюць прычэпленае зьверху драўлянае кола. Каля 24-й гадзіны дзяўчаты абіраюць самую прыгожую -- Купалінку, а хлопцы -- самага мужнага і мудрага -- Князя. Князь са словамі "Жыве Беларусь!" перадае Купалінцы запаленую паходню, і тая падпальвае вогнішча. Пачынаецца сьвята: песьні, карагоды вакол вогнішча, інтэрмэдыі і г.д. Хлопцы, пераапранутыя чорнымі сіламі, скрадаюць Купалінку, і ўсе астатнія з паходнямі ідуць у лес шукаць яе; дзяўчаты хаваюцца ў лесе, а хлопцы ідуць іх шукаць і, знайшоўшы кожны сваю, па двое шукаюць у начным лесе чароўную Папараць-кветку, якая цьвіце толькі ў гэтую ноч. Купальле -- гэта сьвята каханьня. Пад раніцу ўсе наладжваюць ачышчальнае купаньне і сустракаюць узыход сонца, стоячы ў вадзе. Пасьля ля прыгаслага вогнішча п"юць гарбату з назьбіраных учора зёлак.

Таксама сьвяткуюцца веснавыя /у суботу перад Сёмухай/ і восеньскія /1 лістапада/ ДЗЯДЫ. Гэта дзень памінаньня продкаў, калі народ зьбіраецца на могілках і ля магілаў сваіх сваякоў і выдатных нацыянальных герояў успамінае пра іх, вячэрае, прыбірае магілкі.

25 сакавіка -- Дзень незалежнасьці Беларусі. Чытаюцца рэфераты, вершы. Сьпяваецца гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

Якія існавалі беларускія партыі?

З пачаткам XX ст. на Беларусі ўтварыліся нацыянальныя варыянты ўсіх эўрапэйскіх работніцкіх, сялянскіх і рэлігійных тагачасных рухаў. На чале гэтага Адраджэньня стала заснаваная ў 1903 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада /БСГ/, якая непасрэдна кіравала стварэньнем самых розных галіновых /сялянскіх, настаўніцкіх, работніцкіх, клерыкальных і інш./ арганізацыяў. Лідары -- браты Іван і Антон Луцкевічы. Другая буйная беларуская

партыя — Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, дзякуючы якой башыраны на Беларусі каталіцкі касьцёл працаваў на роднай мове, з ксяндзоў выходзілі сапраўдныя змагары за Беларушчыну і незалежнасьць; партыя выдала вялікую колькасьць нацыянальнае літаратуры /мастацкай, палітычнай, навуковай і, вядома, рэлігійнай/ і некалькі буйных пэрыёдыкаў. Лідар — кс.Адам Станкевіч.

Стотысячная Беларуская сялянска-работніцкая грамада /БСРГ/ — самая масавая ў міжваеннай /1920—1939/ Беларусі арганізацыя. Адно з галоўных яе патрабаваньняў — узьяднаньне Бацькаўшчыны, падзеленай у 1920 г. на Усходнюю і Заходнюю. Лідар — Браніслаў Тарашкевіч.

У міжваенны пэрыяд у Заходняй Беларусі існавала мноства культурна-асьветных аб"яднаньняў і таварыстваў, якія працавалі разам з палітычнымі партыямі ў адзінай нацыянальна-вызваленчай плыні. Існавалі таксама і адыёзныя партыі накшталт Беларускай Нацыянал-Сацыялістычнай партыі /БНСП. Лідары — Казлоўскі і Акінчыц/ і іншыя.

Камуністычная партыя Беларусі зьяўляецца своеасаблівым філіялам, зьвяном КПСС. Паводле характару дзейнасьці нацыянальнай прыналежнасьцю не вызначаецца.

Хто галоўныя беларускія пісьменьнікі?

Францішак БАГУШЭВІЧ, Янка КУПАЛА, Уладзімер КАРАТКЕВІЧ -- тры Прарокі, тры духоўныя лідары нацыі, яе годнасьць і сумленьне.

"Яно добра, а нават і трэба ведаць суседзкую мову, але найперш трэба ведаць сваю".
/Фр.Багушэвіч/.

"Пакуль жыве хоць адзін беларус -- будзе жыць беларуская мова, пакуль жыве мова — жыве Беларусь!"
/Янка Купала/.

"Дык шануйце ж мову сваю родную, беларускую.
Іншай вам ня дадзена дый не патрэбна".
/Ул.Караткевіч/.

Найвялікшы беларускі паэт — Максім БАГДАНОВІЧ:

"Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць".

Найвялікшы беларускі майстар-празаік — Максім ГАРЭЦКІ:

"Праўда, мне і з тым і з тым матывам Інтэрнацыянала аднолькава зяўляецца тое трагічнае і нялепае для нас, адроджаных беларусаў, што чужыя для нас людзі, не заўважаючы на сабе яшчэ ня скінутай імі сваёй нацыянальнай прапітанасьці, прыйшлі да нас з Інтэрнацыяналам толькі на вуснах, зь яго толькі фікцыяй у сваіх мазгох, і з фанатычнай безміласэрнасьцю ўзяліся рабіць з беларускай нацыі толькі гной на градкі для ўзрошчваньня сваёй фікцыі Інтэрнацыянала. О, будзь яны пракляты! Яны хочуць зрабіць адзнакі сваёй нацыянальнасьці Інтэрнацыяналам для нас, — дык дзякуй за ласку... Мока патрапім увайсьці ў Інтэрнацыянал як роўныя з усімі, бяз гэтай дадатковай формы разьвіцьця!"

Самы чытэльны ў сьвеце беларускі пісьменьнік — Васіль БЫКАЎ.



# БЕЛАРУСКІ ІМЕНЬНІК

## Альгерд Пакалюбіч

## ...і ліст нашага чытача

Пачынаючы зь сёмага нумару, мы сталі зьмяшчаць на бачынах нашае часапісі працу спадара Альгерда Пакалюбіча з Гомлі. Лічым, што справа гэтая вельмі карысная, бо сёньняшні студэнт — гэта заўтрашні бацька. А перад бацькамі заўсёды будзе паўставаць пытаньне, як назваць сваё дзіцё.

Рэдакцыя была ўсьцешаная, калі дачулася, што ў Баранавіцкім ЗАГСе вядуць падшыўку "Студэнцкае Думкі" й адмыслова вывешваюць на стэндзе "Беларускі іменьнік" Альгерда Пакалюбіча для азнаямленьня зь ім бацькоў. Сёньня мы прапануем увазе нашых чытачоў ліст спадара Станіслава Судніка, які жыве зараз на эміграцыі ў Казахстане. Мяркуем, што ён будзе цікавы ня толькі аўтару працы "Беларускі іменьнік", але й шырэйшаму колу нашых чытачоў. Рэдакцыі вельмі прыемна, што матар'ялы з бачынаў "Думкі" спатыкаюць шчыры водгук у сэрцах чытачоў, што распачынаецца абмеркаваньне, якое спрые усталяваньню навуковае праўды. Ня менш усьцешна, што геаграфія "Студэнцкае Думкі" гэткая шырокая.

Рэдакцыйная суполка "Студэнцкае Думкі".

Дзень добры, сябры.

Піша Вам Суднік, ня той, якога Вы так шчыра лаяце ў № 7 у вартыкуле "Матар'ялы да беларускага іменьніка", а зусім другі. Але я таксама маю намер сказаць некалькі словаў на гэтую тэму. Я далёка не спэцыяліст у філялёгіі, ці якіх там іншых гуманітарных навуках, таму прашу выбачыць, калі выкажу якую-небудзь думку, што ня лезе ў ніводную філялягічную браму.

### ЖАНОЧЫЯ ІМЕНЫ ЧАЦЬВЕРТАЕ СТУПЕНІ

У вартыкуле "Матар'ялы да беларускага іменьніка"/"Студэнцкая Думка", №7, 1989г./ гаворыцца, што мала захавалася жаночых іменаў 4-й ступені. Гэта сапраўды так. І справа тут ня толькі ў тым, што становішча жанчыны ў беларускай радзіне было незайздросным, хоць нельга адкінуць і гэтага. Справа хутчэй у тым, што жаночыя імёны 4-й ступені існавалі й маглі існаваць толькі ў радзіне і, як правіла, за межы яе не выходзілі. Для вёскі жанчына пасьля замужжа трациіла ня толькі сваё дзявочае прозьвішча, але вельмі часта трациіла й імя. Нельга сказаць адназначна, на якім годзе замужжа гэта адбываецца, але пасьля замужжа жанчына пераставала існаваць самастойна. Яна сапраўды рабілася "палове" свайго мужа і, згодна з гэтым, пачынала насіць яго імя. Калі муж быў Адэсь, то жонка рабілася Адашчай, калі Вінцэсь, то — Вінцэшчай, калі Ясь, то — Ясіхай, а калі Стась, то — Стасіхай. У Пятруся была Пятручыха, у Вінцуся — Вінцушча, у Язэпа — Язэпчыха, у Крася — Крашча й гэдак далей. Адбывалася гэта хутчэй тады, калі хлопец браў дзяўчыну зь іншае вёскі. Не амаль ня ведалі, затое ведалі, чыя яна жонка, і гэдак называлі. Таму можна перайсьці часам усю вёску, пакуль дапытаесься, як называюць якую-небудзь Бронішчу, ці Франішчу. У іншых выпадках жанчыну называлі па прозьвішчы, але зноў не па ўласным імені. Так, калі прозьвішча Цьвірка — то Цьвірчыха, а, калі Ванагель, то — Ванагеліха й гэдак далей. Таму й няма ў нашай памяці жаночых іменаў 4-й ступені. Толькі жанчыну зь вельмі рэдкім ці каляровым імем маглі ім называць/Сузана, Фабіяна/.

І яшчэ трошкі пра імены. Калі мы хочам разабрацца ў беларускім іменаслове, мы павінны ў сваіх дасьледваньнях адкінуць усе пасьляраваліцыйныя напластаваньні. Генацыд супроць беларускае нацыі, які адбываўся па абодва бакі ад мяжы, што гвалтоўна падзяліла Беларусь, быў і генацыдам супроць беларускіх іменаў. Ва ўсходняй Беларусі імёны атрымалі расейскае гучаньне і, самае галоўнае, былі з гэтым гучаньнем запісаныя ва ўсе паперы. Так і зрабілі Алесяў Аляксандрамі, а Красёў Крыямі, пры гэтым нават не палічыліся з тым, што той жа Крый ці Дзімітрый ня лезе ні пад якім гнётам у мэлёдыку, гукавую плынь беларускае мовы, хоць жа яго шмальцам маж, а як цудоўна адпавядае ўсім патрабаваньням і Красаь, і Зьміцер.

У заходняй Беларусі йшла палітыка жорсткае палянізацыі. Мала таго, што зямлю запаланілі Збышкі, Ґжэсі й Крысі, дык і тут польскае вымаўленьне беларускіх імёнаў таксама замацавалі ў паперах. І пайшлі Алесь ды Рыгор па сьвеце. Пакуль ішлі на Нясьвіж, то былі паны Олек і Ґжэгож, а як дайшлі да Капыля, то сталі таварышамі Аляксандрам і Грыгорыем. Таму ў сваіх дасьледваньнях і павінны мы пайсьці ў часы трохі ранейшыя. І ўбачым мы там найцікавейшыя рэчы.

Адзін толькі прыклад. Дасьледваньні беларускіх жаночых імёнаў пачатку 20-га стагодзьдзя дазваляюць сьцьвярджаць, што традыцыі грэка-каталіцкае /уніяцкае/ царквы існавалі на Беларусі аж да самай рэвалюцыі, хаця ўжо хутчэй падсьвядома. З касьцёлаў і цэркваў выносілі тады дзяцей з аднолькавымі імёнамі. І дажываюць яшчэ сям-там век Марыі, Кацярыны, Сьцепаніды і Стэфаніды, Тафіліяды, Алімпіяды, Вікторыі, Настасьсі, Веранікі, Аляксандры і каталікі, і праваслаўныя. Ці шмат тут польскага альбо расейскага? Так было.

На гэтэм я скончу паход у філялёгію. Усё, што напісана, напісана на груньце ўспамінаў пра жыхароў вёскі Сейлавічы Нясьвіжскага раёна Менскае вобласьці. Прыведзены матар'ял можна выкарыстаць, як Вам пажадаецца.

З павагай Станіслаў Суднік.

Мой адрас: 472200, Казахстан, Джэзказганская вобл, м.Прыазёрск, вул.Панфілава, д.3, кв.20.

P.S. Прашу выбачаць за правапіс. Цяжка ўспомніць тое, чаго ніколі ня ведаў. Падрэбна выданьне дапаможнікаў па старой правапісі.

∘∘∘∘∘∘∘∘∘∘∘∘∘

"Ґ"

І. ҐАБРЫН, ҐАБРЫЯЛ – у помніках пісьменства XVI–XVIII ст.ст. узгадваецца 87 разоў.
- Ґ.Хадаковіч, 1541 г.;
- Ґ.Паплаускі, 1609 г.;
- Ґ.Календа, 1671 г. /У.А.75г./

Ґабрык, Ґабрук, Ґабрусь, Ґабруш, Ґацута, Ґабрута

2. ҐАДУН – Б.А.69г.
гл.Годзіу

3. ҐАЙ – легендарны варажбіт; Б.А.66г.,69г.; У.А.75г.
Ґаёк, Ґайко, Ґайчук; Ґаясь, Ґайна, Ґаяш

4. ҐАЙБУТ – Б.А.69г.
гл.Ґая

5. ҐАЛЬЛЯШ – узгадваецца 61 раз у XVI–XVIII ст.ст.
- Ґ.Навіцкі, 1649 г.;
- Ґ.Кгрыбоускі, 1663 г. /У.А.75г./
- Ґ.Капіевіч, асьветнік, перакладчык, выдавец, паэта XVII–XVIII ст.ст.; стваральнік сучасных кірылічных літарау, якія выкупіу у яго Пётр І і увёу як г.зв."Гражданку"; адыграу вялікую ролю у гісторыі Расіі;
- Ґ.Леучык, паэта міжваеннага часу.

Ґалік, Ґалюк, Ґальчык, Ґаль/я/ляе, Ґал/ь/, Ляш

6. ҐАЛЬШАН – Т.
гл.Ґальляша; Ґальшук, Ґальча, Ґольча, Ґольша, Ґош

7. ҐАНУШ – Б.А.69г.
Ґанік, Ґанка, Ґанась, Ґануль, Ґаніч, Ґанча.

8. ҐАРАЛЬД – С.С.65г.
гл.Ґаркушу, Ґарнаша; Ралько, Ралюк, Ґарук,...

9. ҐАРКУША – палкоунік беларускага войска у вайне Вялікага княства Беларуска-Літоускага і Кароны Польскай з Масквой, XVI ст.
Ґарчык, Ґаркусь, Ґаркук, Ґарча, Ґаркуш

10. ГАРНАШ - Б.А.69 г.
Гарнік, Гарнук, Гарнась, Гарны.

11. ГАРЫСЛАЎ - Б.А.69г.
гл.Гаркушу, Гарнаша; Славук.

12. ГАСЛАЎ - Т.
гл.ГосьмІра; Гаська, Гасюк, Славук, Гасень, Гасань, Гасуль, Гасаш.

13. ГАСТЫН, ГУСТЫН - Т.
ГасьцІк, Гасьцюк, Гастук, Гастась, Гастусь, Гасьцюль,

14. ГАСЬЦІЛА, ГОСЬЦІШ - 1528 г. /Б.А.66г./
гл.Гастрына

15. ГАШТОЛЬД - гетман ВялІкага княства ЛІтоўскага
Гась, Гашук, Гашта, Гаш, Гашча.

16. ГАЯН - Б.А.69г.
гл.Гая; Янка, Янук, Януш.

17. ГЕДЫМІН - вялІкІ князь, заснавальнІк дынастыІ ГедымІнавІчаў, што у ХІУ-ХУІ ст.ст. кІравала ВялІкІм княствам ЛІтоўскІм. Ад яговых сыноў паходзяць роды князёў ГалІцыных, Патрыкеевых, ХаванскІх, КуракІных, ПІнскІх, Булгакавых, ЗаслаўскІх, ТрубяцкІх І Інш., польскай каралеўскае дынастыІ ЯгайлавІчаў
Гедась, Гедзь, Гедзя, Гедань, Гедаш.

18. ГЕЛЬГУД - герой паўстаньня 1863 года.
Гелька, Гельгусь, Гельгук, Гельгаш

19. ГЕРАНІМ - у ХУІ ст. зафІксаванае 25 разоў.
- Г.МакавецкІ ды ПятровІч, 1567 г. /Б.А.66г./;
- Г.ХадкевІч, кашталян вІленскІ, ХУІ ст.;
- Г.ЛуцэвІч, сваяк Я.Купалы.
Герусь, Гарусь, Гарась, РанІк, Ранак, Ранук, Ранаш, Герча, Гераш.

20. ГЕРАРД - герой "Чорнага замку Альшанскага" Ул.КараткевІча
гл.ГеранІма.

21. ГЕРДАНЬ - князь ВялІкага княства ЛІтоўскага
Гесь, Гердась, Герча, Гардук, Гардаш.

22. ГІНТАЎТ - Б.А.69г.; Бел.ан.77г.
ГІнтась, ГІнтук, ГІнтуль, ГІнча, ГІнташ.

23. ГНЕВАР - Б.А.66г.; скарбнІк рагачоўскІ, ХУІ ст.
Гнесь, Гнеўка, Гнявук, Гневаш

24. ГОДЗІЎ - мІталягІчны персанаж, дух мІру ды згоды
Годзя, Годзь, ДзІў, Годань, Годаш

25. ГОЙША - Б.А.69 г.
ГойцІк, Гайшук, Гойшак, Гаяш.

26. ГОРВАЛЬД - легендарны князь
Горвась, ГорвІк, Гарук, Гарваш.

27. ГОСЬМІР — Т.
Goська, Гасюк, Госень, Госань, Госуль, Госаш.

28. ГРУНВАЛЬД — Т., гістарычнае
Рунька, Рунок, Рунік, /Г/Рунась, /Г/Руналь, Рунаш, Рунак, Рунваль.

29. ГУДАМІР, ГУДЗІМІР, ГУДЗІВІЛ — Б.А.69г.; Т., ад "гусьці", але і ад літ. "гудас" — беларус.
Гудка, Гудась, Гудань, Гудаш, Гуд.

30. ГУР"ЯН — 2 разы ўзгадваецца ў ХУІ ст.
— Г.Стэпановіч, 1578 г. /Б.А.66г./
Гурка, Гурась, Гурык, Гур, Гурын, Гурэй, Гураш;
Янка і г.д.

---

"Д"

1. ДАБРАГОСТ — Нарбутовіч, 1496 г. /Б.А.66г./
Добрык, Дабрусь, Дабрук, Добрась, Добры, Дабраш, Добруш, Добрань, Добча.

2. ДАБРЫЛА — Б.А.69г.
гл.Дабрагоста

3. ДАБУЖА — Т. /магчыма, імя радзімічкага воя/.
Добусь, Добась, Дабук, Добча, Добуж.

4. ДАВОЙНА — ваявода полацкі, ХУІ ст.; Бел.ан.77г.
гл.Войну; Давой

5. ДАВЫД — князь гарадзенскі, славуты ваенны ды грамадзкі дзяяч сярэднявечча.
гл.Войну, Давойну.

6. ДАМАН — у ХУІ-ХУШ ст.ст. узгадваецца 14 разоў
— Д.Шкут, 1591 г.;
— Д.Цэкалік, 1665 г. /У.А.75г./
Домась, Домусь, Дамас/ь/, Дамчук, Домян, Домуль, Домуць, Дамаш,

7. ДАМІНІК — у ХУІ ст.зафіксаванае 6 разоў.
— Д.Пац і Д.Юршыч, 1567г. /Б.А.66г./
— Д.Луцевіч, бацька Я.Купалы;
— Д.Стафановіч, музыка, настаўнік С.Манюшкі, XIX ст.
Домка, Дамась, Домусь, Дамук, Домча, Дамаш.

8. ДАМІЯН — толькі на Берасьцейшчыне ды Гарадзеньшчыне ў ХУІ-ХУШ ст.ст. зафіксаванае 34 разы.
— Д.Глумовіч, магілёўскі шляхціц, ХУШ ст.
гл.Дамада; Янка і г.д.

9. ДАНАТ — Б.А.69г.
Данік, Данук, Данюк, Данец, Данус/ь/, Дан, Данека.

10. ДАНІЛА — у ХУ2-ХУШ ст.ст. узгадваецца 106 разоў.
— Д.Гаўрыловіч, 1528 г.;
— Д.Селязень, 1764 г. /Б.А.66г./;
— Д.Баравік, аўтар нелегальнае брашуры на рускай мове "Лісты пра Беларусь. Ліст першы", 1882 года, народнік;
— Д.Загорскі-Вежа, пэрсанаж рамана Ул.Каратке-

віча "Каласы пад сярпом тваім"
гл. Даната; Данук, Даньчык.



11. ДАНУТ - Б.А.69г.
гл.Даната.

12. ДАЎМОНТ - брат Тройдзеня, князь пскоўскі.
Даўмонка, Домусь, Домча, Даумон, Дамаш.

13. ДАЎНАР - Б.А.69г.; Бел.ан.77г.
До/ў/нік, До/ў/нась, Даўнаш, До/ў/нусь, Доўча, Доўнак.

14. ДЗЕЙ - СБП; Б.А.66г.
-месьціч рэчыцкі, ХУІ-ХУ ст.ст.
Дзейка, Дзешк, Дзяяр, Дзень, Дзеяр.

15. ДЗІВАСІЛ - Т.; Б.А.69г.
Дзівік, Дзівась, Дзівук, Дзіваш, Дзіўча, Дзіў, Сілаш.

16. ДЗІГАЛЬД - пасол князя вялікага Вітаўта, ХІУ ст.
Дзісь, Дзіга, Дзікук, Дзікань.

17. ДЗІДАН - Б.А.69г.
Дзідка, Дзісь, Дзідук, Дзідась, Дзідуль, Дзід, Дзідаш.

18. ДЗЬВІН - легендарны князь.
Дзьвінчык, Дзьвісь, Дзьвінча, Дзьвінук, Дзьвінаш.

19. ДОБАР - Б.А.66г.; браслаўскі баярын, ХУІ ст.
Добрык, Добрусь, Добча, Добыш!

20. ДОЛМАТ - у ХУІ ст. узгадваецца 2 разы.
- Д.Андраевіч, 1528 г. /Б.А.66г./
Далёк, Даля, Далюк, Даль, Долмусь, Долмаш, Дом/у/ась, Далмаш.

21. ДОРАШ - у ХУІ ст. узгадваецца 3 разы.
- Д.Жураўлевіч, 1540 г. /У.А.75г./
Дарошак, Дорас/ь/, Дарус/ь/, Дарашчук, Дорац, Дорах.

22. ДОЎГІРД - ваявода віленскі.
Доўжык, Даўжук, Доўжы, Доўгі, Доўгаль, Доўгань, Доўгаш, Доўча.

23. ДУГАН - Ілінскі, 1589 г. /Б.А.66г./
Дужык, Дужы, Дужань.

24. ДУЖАМІР - Б.А.69г.
гл.Дугана.

25. ДРОБЫШ - Б.А.69г.
Дробась, Дробча, Дробань, Дробцік, Дробны.

26. ДУМА - Дзем'яновіч, рэчыцкі скарбнік, 1567 г.
Думка, Думук, Думча, Думань, Думаш.

27. ДЫМВІД - Бел.ан.85г.
Відка, Відась, Дымусь, Дымук, Відук, Відзіч, Відаш, Дымча.



Рэдакцыя "Студэнцкае Думкі" атрымала ліст ад Апостальскага Візітара для Беларусаў а. Алеся Надсана. Айцец Алесь дасылаў нам шэраг цікавых матар'ялаў, зь якімі "Думка" будзе знаёміць шаноўных чытачоў на сваіх бачынах. Знаёмім сёньня Вас з тэкстам паклікаманьняў ад 10 красавіка 1988г., лічым, што ў нашых варунках ён ня страціў яшчэ свайго значэньня. Паведамляем таксама, што а. Алесь выдае "Весьнік" Беларускага Каталіцкага Душпастырства і згодны ў будучыні дасылаць яго на Бацькаўшчыну. Усім, каго зацікавіў "Весьнік", радзім напісаць лісты на лёнданскі адрас а. Аляксандра, які падаецца ў канцы "Паклікаманьняў", з просьбай пра дасылку.

## ПАКЛІКАНЬНІ

Зьявілася ласка Божая, збаўчая для ўсіх людзей (Ціт 2:11).

Жніво багатае, але работнікаў мала (Мц. 9:37).

Прыйсьце Хрыста на сьвет зьяўляецца пераломным пунктам у гісторыі ўсяго чалавецтва ў Божым пляне: пасьля таго як сам Бог стаўся чалавекам, нічога не можа быць так, як было.Бо сваім прыйсьцем Ён "даў сілу тым, што прынялі Яго, уверылі ў імя Яго, стацца дзецьмі Божымі"( Ян 1: 12). Усе далейшыя падзеі пацьвярджаюць гэта. Вось ужо амаль дзьве тысячы гадоў, як Хрыстос не дае супакою розумам і сумленьням людзей, выклікаючы часта супярэчлівыя пачуцьці, але не пакідаючы бадай нікога абыякавым.

Прыблізна 1000 гадоў таму назад "збаўленная ласка Божая" дайшла і да Беларусі. У гэтым годзе адзначаем вялікую і радасную дату.

Хрысьціянства прыйшло на Беларусь на зараньні нашай гісторыі, у перыяд станаўленьня беларускага народу, як нацыі. Такім чынам можна цьвердзіць, што ўсё разьвіцьцё беларускага народу праходзіла пад уплывам Хрысьціянства. Гэты факт неабходна нам асэнсаваць глыбей у гэтым юбілейным годзе. Сёньня на Бацькаўшчыне робяцца ўсільныя стараньні адмежаваць нашу культуру і яе дасягненьні ад Хрысьціянскай веры, якая была яе натхненьнем і зьместам, іншымі словамі выпаражніць яе з сярэдзіны, пакінуўшы толькі вонкавую абалонку.

Ёсьць небясьпека, што гэтыя стараньні могуць прынесьці вынікі. Царква ў Беларусі знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы. Тое што яшчэ асталося з рэлігійнага жыцьця, дзякуючы намаганьням небеларускіх сьвятароў - а іх ёсьць пераважная большасьць,- носіць чужы характар.

Безумоўна, сьвятару не абавязкова належаць да народу, сярод якога ён працуе. Сьвятыя Кірыла і Метод былі грэкамі. Жадаючы здабыць славянаў для Божага

# ЛІСТ РЭДАКЦЫІ «ДУМКІ» ДА ЎСІХ СЬВЯТАРОЎ І ВЕРНІКАЎ НА БЕЛАРУСІ

"Ня дзівіся таму, што Я сказаў табе: належыць вам нарадзіцца звыш."/Іаан3,7./

Госпад сказаў Нікадэму аб духоўным адраджэньні, безь якога немагчыма ўвайсьці ў Царства Божае./Іаан3:3,5./ Гэтае адраджэньне, якое прывяло "... вялікае мноства людзей ... са ўсіх плямёнаў, і каленаў, і народаў, і моваў..."перад прастол Божы/Адкрыцьцё7,9./ з чарговым уздымам пачалося й сярод беларускага народу. Але беларускамоўнае насельніцтва Беларусі сутыкнулася са спэцыфічным супрацівам шатана, якое ён утварае цераз большасьць хрысьціянскіх сьвятароў, якія,на словах прапаведуючы любоў нават да ворагаў, справай жа прапаведуюць зьнявагу і да беларускага народу, і да ягонае мовы, бо ня толькі самі адпраўляюць набажэнства па-расейску альбо па-польску, але й асуджаюць тых, хто для беларусаў на беларускай зямлі прапаведуе Хрыста па-беларуску. Гэткімі стараньнямі хрысьціянскіх сьвятароў шатан пачаў на Беларусі адраджаць паганства. Колькі душаў загіне па віне памянёных прапаведнікаў ды сьвятароў, якія й самі ня ўвойдуць і другім перашкаджаюць увайсьці,ведама адному Богу./Лукаш11;52/ Трагізм гэтага не зьмякчаецца й ад таго, што Бог навядзе адплату на няверных сьвятароў, расьсекшы іх і аддаўшы іх аднаму лёсу разам з крывадушнікамі./Мацьвей24:51/

Спадару Богу заўгодна,каб Яго Імя прапаведалася ды праслаўлялася сярод усіх народаў і на ўсіх мовах. І Ён гэта ўрачыста абяцаў./Дзеяньні2.Адкрыцьцё14:6-7; 7:9-10; 5:9.Філіпянам2:10-11/

Шатан, ведаючы закон Божы, што не выканаўца ў адным становіцца вінаватым ва ўсім /Якуб2:10/, хоча гэты закон выкарыстаць супраць Бога.

Унушыўшы думку, што галоўнае — гэта прапаведаваць Бога, а на якой мове — гэта і не галоўнае, і не абавязковае, шатан хоча перашкодзіць праслаўленьню Бога хоць на адной мове,

валадарства, яны не накідалі ім сваёй грэцкай культуры, але стварылі ўмовы для разьвіцьця сваёй багатай культуры гэтых апошніх. У гэтым іхняя веліч.

На жаль, чужыя сьвятары, якія працуюць на нашай Бацькаўшчыне, далёкія духам ад Апосталаў Славянаў. Выглядае, што для іх Царква зьяўляецца ня столькі сродкам для асьвячэньня, колькі прыладаю для іхніх палітычных мэтаў ўтрыманьня "польскасьці" ў Беларусі. Такім чынам, як з горыччу піша беларускі сьвятар а. Уладзіслаў Чарняўскі, для беларусаў "чужыя лацеры, чужая царква, чужая вера, чужы сьвятар, чужая Маці Божая і Госпад Бог чужы, або прынамсі польскі". Такі стан рэчаў можа толькі адпіхнуць ад Царквы беларусаў, асабліва маладое пакаленьне, сярод якога назіраецца ўзрост нацыянальнай сьведамасьці. Вынікі гэтага ва ўмовах афіцыяльнай антырэлігійнай палітыкі савецкіх уладаў могуць быць толькі трагічныя.

У нашых суседзяў - ліцьвіноў і латышоў, - Царква, нягледзячы на вялікія цяжкасьці, жыве. Але яны маюць сваіх сьвятароў...

У беларусаў, на жаль, сваіх сьвятароў амаль няма. А тыя нешматлікія сьвятары, якія яшчэ жывуць, усе ў старэйшым веку і працуюць у незвычайна цяжкіх умовах. Мы ўсе ведаем гістарычныя прычыны такога сумнага становішча. Але ведаць мала. У гэтым юбілейным годзе трэба нам глянуць на нас саміх і спытацца, што мы зрабілі, каб прыдбаць беларускіх сьвятароў? На Бацькаўшчыне на дарозе да сьвятарства стаяць велізарныя перашкоды. Але што скажам аб нас, якія жывем у вольным сьвеце? Больш як сорак гадоў прайшло ад канца апошняй вайны, а колькі сьвятароў выйшла за гэты час з беларускае асяродзьдзя? Ёсьць над чым задумацца.

Безумоўна, сьвятароў паклікае Бог. Але Бог, як ва ўсіх сваіх дачыненьнях з людзьмі, хоча нашага добраахвотнага супрацоўніцтва, нашай згоды.

Пасьля свайго ўваскрасеньня Хрыстос спытаўся Пятра: "Сымоне, сыне Ёны, ці любіш мяне, больш за іншых?". Пачуўшы адказ: "Так, Госпадзе, Ты ведаеш, што люблю Цябе", Ён дае загад:"Пасі авечак маіх". Гэта паўтарылася тры разы (гл. Ян 21:15-18). Вось прыклад сьвятарскага пакліканьня. Перш выпрабаваньне любові Бога, пасьля практычны доказ гэтай любові: "Пасі авечак маіх". Пасьвіць авечак значыць клапаціцца аб іхніх патрэбах, заспакойваць іхні голад, бараніць ад ваўкоў. Адказнасьць вялікая, якая патрабуе адданасьці аж да самазабыцьця і гатоўнасьці, калі трэба, "душу палажыць за авец сваіх" (Ян 10:11).

Сьвяты Айцец абвясьціў гэты год Годам Марыянскім у гонар Найсьвяцейшай Маці Божай. Гаворачы пра сьвятарскія пакліканьні, нельга ніяк забыцца пра яе. Ці мы калі застанавіліся над словамі "Вось я служка Гасподняя, хай станецца мне паводле твайго слова" (Лк. 1:38), якімі яна адказала, пачуўшы вестку, што мае быць Маці Бога? Гэтымі словамі яна разьвіталася з марамі зямнога шчасьця і дала згоду на нешта вялікае і няведамае, страшнае ў сваёй незразумеласьці! Яна магла сказаць: "Не, нашто мне гэтыя клопаты, я хачу жыць спакойна, як іншыя людзі". Якія вынікі

а тым самым зрабіць Бога вінаватым перад сваім словам, бо ў Бога нягалоўнага слова няма.

"Гэтак і слова Маё, якое выходзіць з вуснаў Маіх, — яно не вяртаецца да Мяне марным, але выконвае тое, што Мне заўгодна, і робіць тое, для чаго Я паслаў яго"./Ісая55:11/

Такім чынам, супрацоўнікі Хрыстовыя ў пастыраначальніцтве павінны прыкласьці ўсе намаганьні, каб на сьвятарскім мейсцы на Беларусі былі сьвятары, якія ня толькі адпраўлялі б набажэнства на беларускай мове, але й шчыра б любілі свой беларускі народ. "Бо так палюбіў Бог сьвет /мусіць, і беларусаў ?/, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб усякі, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае."/Іаан3:16/.

P.S. Хацелася б, каб гэты ліст крануў балючую струну ў душах вернікаў і тых, хто толькі прыходзіць да Бога, і спадзяемся, што ён распачаў вялікую гутарку. Чакаем допісаў.

# З НАШАЕ ПОШТЫ

Дарагая "Студэнцкая Думка" !

Цалкам выпадкова трапіў да мяне ў рукі 8 нумар Вашае часапісі. Выпадкова таму, што я служу. Служу ня ў Беларусі, а ў Маскве.

Сам я ўдзельнічаў у мітынгу 30 кастрычніка, бачыў усё на свае ўласныя вочы. Майго сябра, зь якім мы былі, забралі ў паліцыю. Мяне зараз аніякая прапаганда не падмане. Але пра ўсё гэтае ведаюць адзінкі. І, атрымліваючы хлусьлівую інфармацыю, тыя, хто ня мае ўяўленьня пра нашыя падзеі, пра падзеі ў Прыбалтыцы, вераць. Вось што страшэннае.

Тутака, у войску, лямантуюць пра інтэрнацыяналізм, пра сяброўства народаў і краінаў. І адначасна распальваюць варожасьць. Дробную й злую.

На адным з батальённых сходаў з залі было зададзенае пытаньне: "Што адбываецца ў рэспубліках Прыбалтыкі ?" На сцэну скочыў вялікі "знаўца" прыбалтыцкага пытаньня лейтэнант М., які пражыў у Вільні 5-ць дзён, і

такога адказу было б для ўсяго чалавецтва нам сёньня цяжка ўявіць. Затое ведаем, што за кугкая згода сталася пачаткам нашага збаўленьня.

Моцi Божая зьяўляецца прыкладам паслухмянасьці волі Божай для нас усіх, асабліва для сьвятароў, кожны з якіх перажыў у сваім жыцьці момант, калі трэба было яму сказаць : "Вось я слуга Твой, Божа, рабі са мною згодна з Тваёй воляю".

**Нядзеля 24 красавіка 1968 г. будзе сусьветным днём малітвы за пакліканьні.** Мы верым у сілу малітвы. Дык будзем прасіць добрага Бога, каб Ён зьмілаваўся над намі і паклікаў спасярод нашага беларускага народу верных і прыкладных слугаў, якія былі б для нас усіх добрымі пастырамі. Хай справа пакліканьняў станецца прадметам нашай малітвы не толькі ў той дзень, але праз усе дні нашага жыцьця.

Лёндан 10 красавіка 1968 г.

*Аляксандр Надсон*

а. Аляксандр Надсон
Апостальскі Візытатар для Беларусаў Каталікоў

**Малітва за пакліканьні**

Госпадзе, зрабі мяне лепшым чым я ёсьць цяпер, больш чульлівым на патрэбы іншых, больш шчырым з сабою і больш верным Табе.

Памажы мне ўбачыць маё сапраўднае пакліканьне ў жыцьці, каб дзякуючы яму, я мог знайсьці шчасьце для сябе і прынесьці шчасьце іншым.

Дай, Госпадзе, духа ахвярнасьці тым, каго Ты паклікаў да сьвятарства, каб яны з гатовасьцю адгукнуліся на Твой заклік.

Асабліва просім Цябе: Глянь ласкава на наш беларускі народ і пакліч спасярод яго сабе верных слугаў, якія б вялі нас да пазнаньня Цябе; адзінага праўдзівага Бога, каб мы маглі славіць на нашай роднай мове Тваё велічнае і ўсяслаўнае Імя, Айца і Сына і Сьвятога Духа, і атрымаць вечнае жыцьцё. Амін.

**Усіх, хто адчувае жаданьне аддаць сваё жыцьцё на службу Богу сярод беларусаў у сьвятарскім стане, просім зьвяртацца на адрас:**

**Apostolic Visitor for Byelorussians**
**Marian House**
**Holden Avenue, London N12 8HY, England**

пачаў вярэдзці... Пра тое, як яму ўсьлед крычэлі, што ён расеец, пра тое, як выпіхвалі з крамы й гэтак далей.

Мне было брыдка слухаць. Якая гэта была жахлівая прапаганда. Пра які інтэрнацыяналізм у такім разе можа ісьці гаворка ?! Пасьля гэтага сходу на літувісаў пазіралі скоса, а некаторыя кідалі проста ў твар: "Сволачы ! Вас вешаць трэба !" Я сам тады памкнуўся тлумачыць нейкім узьбекам, чаго жадаюць народы Прыбалтыцы. На што быў адказ: "Дык гэта ж ідэі Гітлера ! Вы ж узносіце самі сябе !"

Але ж хіба змагацца за сваю незалежнасьць, за адраджэньне нацыянальнае культуры, якую утапталі у бруд — гэта гітлерызм ?!

Да мяне, напрыклад, зрэдку падыходзяць і пытаюцца:

— Ты размаўляеш па-беларуску ?

— Так, — адказваю я і мне робіцца сорамна, бо я не размаўляю на сваёй мове. Але ж ці магу я сказаць: "Не." ? Каб потым сьмяяліся мне ў твар.

Вось што жахліва. Я люблю сваю Радзіму і мне балюча за яе й крыўдна. Няўжо й дзеці мае гэтаксама будуць чырванейчы хлусіць ?

А яшчэ прачытаў "Беларускую праграму міру". Гэта вельмі добра, але усё ж такі гэта утопія. Пры нашай дэмакратыі гэтая праграма ня будзе зьдзейсненая.

З найлепшымі зычэньнямі Валеры Пархамовіч. 21.8.89.

**P.S.** **?**

Шаноўны пане Валеры !

Рэдакцыя "С.Д." лічыць, што на апошняе тваё пытаньне ты мусіш сам даць сабе пэўны адказ, як і тысячы маладых беларусаў, што хутка /мы цьвёрда упэўненыя ў гэтым/ прыйдуць да свайго нацыянальнага усьведамленьня. Дзякуем за ліста и перапрапрашаем, што друкуем са значнымі скаротамі.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

# ШТО РАБІЦЬ?

З гэтага нумару мы распачынаем сталую рубрыку /прынамсі, мы спадзяемся, што яна гэткаю стане/: "Што рабіць ?" У ёй мы зьбіраемся даваць сёньняшняму студэнцтву практычныя парады ды прапазыцыі ў барацьбе за нашую сьвятую БЕЛАРУСКУЮ СПРАВУ. Робячы надалей гэтую рубрыку, плянуем абапірацца на свой уласны досьвед барацьбы /сяброў Рэдакцыйнае суполкі/, на допісы й прапановы сяброў розных студэнцкіх згуртаваньняў і разнастайных прыхільнікаў, на гісторыю беларускага студэнцкага руху да бальшавіцкага перавароту ў 1917г., на традыцыі беларускага студэнцкага змаганьня ў міжваенным часе ў заходняй Беларусі. Будзем дужа ўдзячныя ўсім, хто адгукнецца й дашле свае думкі ды прапановы ў заснаваную рубрыку.

А сёньня мы знаёмім нашых шаноўных чытачоў з артыкулам "Што рабіць", перадрукаваным намі са "Студэнцкае Думкі" /часапіс беларускага студэнцтва, Вільня, чэрвень, 1935г., № 1/5// часоў знаходжаньня заходняе Беларусі пад акупацыяй Польшчы. Лічым, што гэны артыкул ня страціў сваіх актуальнасьцяў і сёньня. І калі ў некаторых момантах робіцца націск на актывізацыю вёскі, то трэба зразумець, што этап гэты ўжо пройдзены. Бальшавіцкая сыстэма гаспадараньня й клясавага гэнацыду зьнішчыла спрадвечную беларускую вёску, зьнішчыла сялянства, як клясу. Сёньня арэнай барацьбы беларускага народу за свае нацыянальныя, сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя, урэшце, агульналюдзкія правы стала места /горад/. Ідэалы ж ранейшыя засталіся нязьдзейсьненымі. Зьдзейсьніць іх мусім мы !

Рэдакцыйная суполка "Студэнцкае Думкі"

## ШТО РАБІЦЬ?

Аснаўная адзнака жыцьця - вечны рух, зьмена. Калі жыцьцё спыніцца хоць на адзін мамэнт - гэта будзе знак сьмерці.

Так у жыцьці арганічным.

Так і ў жыцьці грамадзка-нацыянальным.

І гэта мы мусім добра помніць, помніць асабліва цяпер, калі нам пагражае дэнацыяналізацыя.

У нас ёсьць ужо ясна і выразна сформуляваны Ідэал - Ідэал дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Ідэал гэты, згодны з прызнаным усім сьветам правам народаў на самавызначэньне, знайшоў сваё найбольш поўнае выяўленьне ў пастановах Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. і ў акце абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га сакавіка 1918 году. Незалежнасьць ня толькі нашая путяводная зорка - яна для нас мае ў роўнай меры і ідэальнае, і рэальнае значэньне.

Але на шляху да зьдзейсьненьня ідэалу нашай незалежнасьці, існуюць вялічэзныя перашкоды і толькі ўпорыстым, бясспынным, сьведамым сваей мэты натугам усяго беларускага народу мы зможам іх зьнішчыць.

Дык што-ж рабіць нам сяньня - у цяжкіх варунках нашай сучаснасьці? Як нам класьці сваю цэгліну пад фундамэнт будучай вольнай і незалежнай Беларусі?

Часта можна спаткаць дзіўных людзей, якія вельмі многа і горача гавораць аб ідэі незалежнасьці, сулячь хуткае яе зьдзейсьненьне, але самі нічога для беларускай справы ня робяць... Нашто рабіць, нашто змагацца з усялякімі труднасьцямі, з якімі сустракаецца кожнае беларускае нацыянальнае пачынаньне? Там - у нашай уласнай дзяржаве - мы нагонім усё, у чым адстаём сяньня.

Такая думка, хаця вельмі выгадная для тых, хто яе выказвае, у сутнасьці сваёй фальшывая і для беларускай справы шкодная. Бо, калі мы хаця на самы кароткі час зложым бязьдзейна рукі, чакаючы, што "доля прыйдзе сама" - дык ані незалежнасьці мы ніколі ня убачым.

Будаваць Беларусь мы мусім увесь час, кожны дзень, кожную часіну. Незалежным дзяржаўным жыцьцём мы здолеем жыць толькі тады, калі гэная форма дзяржаўнага існаваньня будзе адказываць запраўднаму імкненьню да яе шырокіх народных масаў, сьведамых нацыянальна, грамадзка актыўных і сваім культурным роўнем здольных узяць у свае рукі кіраваньне жыцьця сваёй Бацькаўшчыны. Усё гэта не здабудзем мы ў адзін мамэнт. На гэта патрэбна доўгая і напружаная праца ўсіх сілаў народу, а перадусім – нацыянальна сьведамай інтэлігенцыі. Ясна, што і ў нас – як ува ўсіх народаў, якія ў барацьбе здабывалі сабе правы і волю – у першых радох працаўнікоў для беларускай справы мусіць стаяць студэнцкая моладзь. Мы, студэнты, будучыя інтэлектуальныя сілы беларускага народу, – мусім сабе выпрацаваць ясную праграму нашай нацыянальнай працы – працы падчас навукі і пасьля сканчэньня яе.

У першую чаргу неабходна працаваць над усьведамленьнем беларускіх працоўных масаў – усьведамленьнем нацыянальным і соцыяльным. Трэба будзіць у масах нацыянальную сьведамасьць, абапертую на пачуцьці людзкіх правоў беларусаў. Па гэтым шляху ішло нашае адраджэньне ад самога пачатку – па гэтым шляху мусіць яно ісьці і разьвівацца далей.

Але ня толькі масам патрэбна нацыянальнае ўсьведамленьне – яно ў вялікай меры патрэбна і для студэнцкай моладзі, якая ў чужых школах загубіла сьведамасьць сваёй беларускасьці, загубіла лучнасьць з сваім народам. Такіх сярод студэнтаў многа – шмат больш, чым нацыянальна сьведамых. Дык трэба іх вярнуць нашаму народу.

Студэнцкая-ж моладзь, праводзячы значную частку году на вёсцы, можа і мусіць прыцягіваць да актыўнай беларускай працы перадавыя элемэнты вясковай моладзі, ды злучаць іх з цэнтрамі грамадзкага і культурнага беларускага жыцьця.

Вёску трэба актывізаваць на грунце культурна-нацыянальнае і гаспадарчае самадзейнасьці. Вёска мусіць прывучыцца вясьці ўсе свае справы саматугам, сваімі ўласнымі сіламі. У гэтай акцыі студэнцкая моладзь шмат можа зрабіць, папамагаючы вёсцы разабрацца ў тым, на што яна мае права і што мусіць рабіць. Самаўрады, усялякага роду асьветныя арганізацыі, коопэратывы і інш. – гэта найлепшая школа грамадзкага жыцьця. Праца ў гэтым кірунку тымбольш патрэбна таму, што ў псыхіцы масаў, як і ў псыхіцы беларускага грамадзянства, дагэтуль жыве ліхая спадчына прыгонных часоў – нястача веры ў свае ўласныя сілы і здольнасьці, у свой уласны розум, шуканьне ўсялякіх чужацкіх "апякуноў" і "вучыцялёў". Трэба будзіць у народзе самапашану і веру ў сябе. Бяз духовай незалежнасьці ня можа быць незалежнасьці палітычнай. Будзьма вольнымі і незалежнымі ў душах нашых !

Каб ісьці да народу з новым словам, нельга абмежавацца тым, што сам народ сабе вякамі тварыў. Гэтага мала. Трэба даваць болей і перадусім – трэба самым мець тое, чым будзем дзяліцца з народам: трэба мець культуру, трэба мець веду. Трэба самым узбагачывацца, прысвоіваючы багацьце сусьветнай культуры і творачы ўласныя культурныя цэннасьці. Хай іншыя жартуюць, што гэта "праца на выраст". Мо' сяньня ня ўсё здолее зразумець і прыняць вёска,– але, калі ня прыйме сяньня, дык пачуе патрэбу гэтага і зажадае заўтра. Ці-ж будзем тады стаяць перад ёю з пустымі рукамі? І таму мы мусім сачыць за сусьветным культурным жыцьцём, мусім браць з яго тое, што нам потрэбна, мусім у канцы і самі прыкладаць руку да тварэньня агульналюдзкой культуры, каторая дае і заўсёды будзе даваць духовую страву і беларускаму народу.

Вось коратка нашыя заданьні, нашае праграма творчай працы ў нацыянальнай галіне.

Гэтая праграма, незалежна ад праграмы соцыяльнай – аб якой іншым разам – мусіць быць праводжана ў жыцьцё ўсьцяж, бясспынна і пры ўсякіх абставінах.

Калі нельга зьдзейсьніць усяго – трэба рабіць тое, што можна. Але ніколі нельга спыняць працу для беларускай справы, нельга задзержываць ходу нацыянальнага руху – спыненьне яго, дабравольнае затрыманьне, гэта няўхільны занепад і нават нацыянальная сьмерць.

# БВЕСТКІ; АБ'ЯВЫ; АБВЕСТКІ; А

• • • • • •

Для тых, хто цікавіцца беларускімі музычнымі запісамі, паведамляем:

а/ маем: 1. Данчык /першая пліта/ "Я ад вас далёка";
2. Данчык /другая пліта/ "Мы адной табе належым";
3. "Мроя" — 50 хвілінаў запісу;
4. Алесь Камоцкі — 90 хв. запісу;
5. Сяржук Сокалаў-Воюш "Касінерскі цыкл" — 45 хв. запісу.;

б/ перадаючы касэту, трэба пазначыць на ёй ці на паперцы, што і куды запісаць, уладальніка касэты;

в/ пажадана кампакткасэты і замежныя;

г/ тэрмін запісу — мінімум тыдзень;

д/ кантактны тэлефон у Менску: 618-213, паклікаць Андруся, хатні, пасьля 21.00.

• • • • • •

Бажаючім прийняти участь у створенні культурно-освітнього Товариства українців, які проживають у Білорусії, просимо звертатись на адресу:

220020, м. Мінськ - 20, а/я 78, Малько Вік. Мик.

Ініціативна група по створенню Товариства

# САРДЭЧНЫ ДЗЯКУЙ

* * *

Завяршаецца збор кніжак для Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім/Польшча/, які год таму распачала студэнцкая патрыятычная суполка "Сьвітанак". З таго часу было назьбірана каля 2 тысячаў разнастайных часапісаў, кніжак мастацкай літаратуры, падручнікаў і г.д. У гэтую патрыятычную справу ўключыліся шырокія колы грамадзкасьці, а апошнім часам чынны ўдзел ўзялі суполкі ТБМ і іншыя патрыятычныя згуртаваньні. Цяпер стаіць пытаньне, якім чынам якнайхутчэй передаць гэтую літаратуру ў Польшчу. У сувязі з гэтым зьвяртаемся да ТБМ, таварыства "Радзіма" и "Дружба" з просьбаю дапамагчы нам арганізаваць перасылку літаратуры.

Збоку падаем экслібрыс, які спэцыяльна падрыхтаваны для ўклейваньня ў сабраныя кнігі.

Для тых, хто ўпершыню

СЬВІТАНАК · МЕНСК · СЬВІТАНАК · МЕНСК · СЬВІТАНАК

Дар Беларускаму ліцэю
імя Браніслава Тарашкевіча
ў Бельску-Падляскім




ад студэнцкага
патрыятычнага згуртаваньня
„ СЬВІТАНАК "

1989

СЬВІТАНАК · МЕНСК · СЬВІТАНАК · МЕНСК · СЬВІТАНАК

ўзяў у рукі нашую часапісь і загарэўся шчырым жаданьнем ахвяраваць колькі кніжак ці часапісаў для беларускіх студэнтаў у Польшчы, раім дамовіцца з адказным за збор літаратуры спадаром Юрасём Траяновічам/яго хатні тэлефон у Менску 611-589/.

Выказваем шчыры дзякуй нашым чарговым ахвяравальнікам:
спадару Варанцову Міхасю, інжынэру "Паўночзахадмантажналадкі";
спадару Вадзіму Гліньніку;
спадару Андрусю Мельнікаву, каапэратару з Воршы;
спадару Алесю Сярожкіну, работніку трэсту "Белрэстаўрацыя"/м.Ворша/;
спадару Сяржуку Дубаўцу, супрацоўніку часапісі "Нёман";
спадару Алесю Емяльянаву, літкансультанту Дома літаратараў у Менску.

* * *

Рэдакцыйная суполка "Студэнцкае Думкі" выказвае шчырую падзяку за фінансовую падтрымку часапісі нашым чарговым ахвяравальнікам:
спадарыні Заброцкай Сьвятлане, жыхарцы мястэчка Салігорск;
спадару Зайку Аляксандру, жыхару Берасьцейскага ваяводства;
спадару Байкову Уладзімеру, нашаму суайчыньніку з Масквы;
спадару Санько Хведару, вясковаму лекару з Азярычана.

. . . . . . . . . .

Шаноўныя чытачы, з гэтага нумару адрас рэдакцыі зьмяняецца. "Студэнцкая Думка" замовіла сваю паштовую скрыню, на якую просім дасылаць Вашыя лісты.

Як і раней, рэдакцыя чакае ад Вас матар'ялы характару культурна-грамадзкага, літаратурна-мастацкага, палітычнага, эканамічнага, навуковага, гумарыстычнага, сатырычнага, кроніку з жыцьця Вашых інстытутаў, абвесткі.

Наш новы адрас: 220045, БЕЛАРУСЬ/БНР/, м.МЕНСК, паштовая скрынка № 17.



**ГОЛАС НАРОДА** *(Паводле Маякоўскага)*

*Еш ананасы, жуй сэрвелат —*
*час твой сыходзіць,*
*партапарат!*

*Занатаваў Вядзьмак Менскі*